# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1585) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 28 ВЕРАСНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.



На беларускім канцэрце ў Беластоку. Фота С. Грынявіцкага.

## ЧЫМ БУДЗЕМ ЗАЙМАЦЦА

Усе мерапрыемствы ў мінулым 1985/1986 культурна-асветным сезоне праводзіліся пад лозунгам Трыццацігоддзя БГКТ і „Нівы“. Адзначылі мы свой юбілей так як маглі і ўмелі, а штодзённай, сумленнай працай увайшлі ў трыццаць першы год свайго існавання і дзейнасці. Перад наступаючым культурна-асветным сезонам узнікае пытанне, чым будзе займацца наша Таварыства ў найбліжэйшы час?

Абавязкова будзем працягваць правераныя ўжо формы дзейнасці, адобраныя членамі і сімпатыкамі БГКТ, а таксама імкнуцца да папулярызацыі беларускай мовы і беларускай культуры ў нашым асяроддзі.

Вялікую ўвагу будзем адводзіць навучанню беларускай мовы. З прыемнасцю хочам паінфармаваць чытачоў, што павялічылася колькасць вучняў у Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску-Падляшскім. З 1 верасня г.г. адкрыты чацверты аддзел першага класа ў тым жа ліцэі. Рэактывавана навучанне беларускай мовы ў пачатковых школах у Гарадку, Сяміхочах (гм. Нурэц-станцыя), Шымках (гм. Міхалова). Гэтыя факты сведчаць аб карысных зменах у падыходзе нашага насельніцтва да праблемы навучання роднай мовы, хаця да аптымізму ў гэтай галіне яшчэ даволі далёка.

Галоўнае праўленне БГКТ супольна з Кураторыяй асветы і выхавання ў Беластоку будзе традыцыйна арганізаваць конкурсы для школьнай моладзі. Плануем правесці дэкламатарскі конкурс пад лозунгам „Мір і дружба“, агляд дзіцячых тэатральных калектываў і конкурс „Беларуская песня ’87“. Да ўдзелу ў конкурсе шчыра запрашаем таксама вучняў са школ, у якіх няма навучання беларускай мовы.

Для дарослых арганізаваць будзем конкурс „Беларуская песня ’87“, які закончыцца двухдзённым фінальным аглядам у Беластоку. Таксама будзем працягваць арганізаванне агляду аматарскіх тэатральных калектываў. З мэтай папулярызацыі беларускай культуры абвясцілі мы вялікі чытальніцкі конкурс, да якога запрашаем усіх любіцеляў беларускай паэзіі і прозы (правілы конкурсу друкавала „Ніва“).

(Працяг на стар. 4)

## ПАД ЗЯЛЁНЫМ СЦЯГАМ

8 верасня Ваяводскі камітэт Аб’яднанага людовага стаše ронніцтва склікаў у Беластоку на рабочую нараду сваіх актывістаў і старшынь гмінных камітэтаў.

Што тады чуваць у радах партыі, якая сваіх членаў вядзе да змагання за лепшую будучыню пад зялёным сцягам? Якія перашкоды бачыць яна перш за ўсё на сваім шляху?

Найперш варта ведаць, што ЗСЛ у Беластоцкім ваяводстве налічвае зараз 11.359 членаў, аб’яднаных у 833 гуртках. Старшыня Ваяводскага камітэта гэтай партыі **Рышард Нявінскі**, выступаючы з дакладам, адзначыў, што па актыўнасці вылзяляюцца перш за ўсё гурткі ЗСЛ у гмінах: Саколка, Дабжынева, Сямяцічы і Кляшчэлі.

На жаль, маладыя людзі, асабліва ў вясковых асяроддзях, неахвотна ўключаюцца ў грамадскую дзейнасць. У радах ЗСЛ моладзі да трыццаці год налічваецца крыху больш за 22 прац., а маладых старшынь гурткоў і гмінных камітэтаў тут усяго 9 прац.

У нейкай ступені гэтакае становішча вынікае з таго, што наша вёска, асабліва ва ўсходніх і паўднёвых раёнах Беласточчыны, вельмі ж састарылася. Проста маладыя людзі, маючы свабодны выбар: ці аставацца на гаспадарцы, ці шукаць шчасця ў горадзе, найчасцей уцякаюць ад бацькоўскіх парогаў, як ад нейкай смяротнай заразы.

ЗСЛ хоча бачыць гэтую адмоўную грамадскую з’яву і стараецца ёй супрацьпастаўляцца. Ніхто, вядома, не мае намеру адміністрацыйнымі метадамі прымушаць маладых людзей, каб яны не пураліся зямлі. Трэба перш за ўсё ствараць такія ўмовы жыцця і працы ў вёсках, каб маладым людзям хацелася спа-

(Працяг на стар. 4)




### ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА І... АСОТ

Адплыло ўжо лета, цёплае, ласкавае, а да таго яшчэ насычанае мноствам розных фестываляў, што адбываліся сёлета ў нашай краіне. Але для нас, беларусаў, найважнейшым быў наш фестываль — агляд самадзейных калектываў у Беластоку, які адбыўся ў палавіне чэрвеня гэтага года. Яшчэ да сёння я пад уражаннем таго, што бачыла і чула ў тыя чэрвеньскія адвячоркі.

Няхай шкадуюць тыя, што маглі, а не былі на гэтым аглядзе. Я не шкадую, што прыехала аж з Варшавы. Аб тым, што можна было пачуць і ўбачыць, па-жаночы, сардэчна і прыхільна расказала чытачам „Нівы“ Ада Чэчуга ў артыкуле „Кветка ты наша, папараць-кветка...“ („Ніва“ № 27 ад 6 ліпеня г.г.). Аднак у найбольш змястоўным артыкуле немагчыма перадаць усё тое, што чалавек змог убачыць і пачуць сам.

Агляды харавых калектываў — гэта ўжо шматгадовая традыцыя, аб чым ведаюць усе, зацікаўленыя беларускай народнай творчасцю і беларускай сучаснай песняй. Чытачам „Нівы“ і слухачам вядомы ўжо назвы калектываў і салісты, якія заваёўвалі ўзнагароды. (Як вядома, узнагарод арганізатары раздаюць няшмат, а добрых спевакоў, што прыязджаюць на агляд, — мноства!).

Мяне цешыць тое, што нашыя самадзейнікі прабуюць уводзіць нейкія іншыя формы мастацтва. Паявіліся менавіта два цікавыя тэатральныя калектывы, аб якіх ужо пісала А.Ч., і яны заслугоўваюць на асаблівую ўвагу. Гэта калектыў „Парнас“ з Бельска і жаночы калектыў з Тыневіч. Іх смела можна назваць шляхетнымі самацветамі, а ўдзельнікі гэтых калектываў гэта, несумненна, у большасці самародныя сцэнічныя таленты. На маю думку, з малой рэтушоўкай, праведзенай прафесіянальным рэжысёрам, абодва калектывы можна было б паказаць на кожнай сцэне без ніякага сораму.

Былі і слабейшыя, але варта іх заахвоціць да далейшай працы ў гэтым напрамку. Варта ім, гэтым калектывам, выказаць падзяку за тое, што ўзяліся за гэтую нялёгкую форму мастацтва, а да таго ж яшчэ адзін з калектываў (з Паўлаў) узяўся за вялікі рэпертуар — за „Немцаў“ самага Л. Кручкоўскага. Чытаючы ў „Адгалосках“ („Ніва“ № 33 ад 17.08 г.г.) карэспандэнцыю К. Сідаровіча, падумалася мне, што менавіта, гледзячы на

(Працяг на стар. 4)




# АБ КУЛЬТУРЫ

Спосабаў, метадаў, крытэрыяў, пры дапамозе якіх мераюць спецыялісты ступень і характар культуры грамадства, ёсць вельмі многа. Для прыкладу, можа такой меркай быць колькасць школ і вышэйшых устаноў у краіне, колькасць бібліятэк, колькасць надрукаваных і прададзеных кніжак, часопісаў, газет, колькасць прададзенага на аднаго жыхара мыла і зубной пасты і г.д. і т.п. І трэба сказаць, што паказчыкі ў гэтых усіх галінах у Народнай Польшчы вельмі высокія.

Я сёння аднак хачу звярнуць увагу на факт зусім іншы, як, на маю думку, болей, чым іншыя, сведчыць аб ступені і характары культуры ў грамадстве. Гэтым фактарам з'яўляюцца публічныя туалеты. Туалеты на аўтобусных і чыгуначных вакзалах, туалеты ў цягніках, туалеты пры маламестачковых рэстаранах і многа дзе яшчэ і яшчэ. Ведаем іх і з Гайнаўкі, і з Бельска, і з Кляшчэляў, і з Саколкі, і з Гарадка. Ведаем іх фатальны выгляд, дзікую гаму запахаў і дзівосны фальклор „мудрасцей", выяўленых у надпісах, зробленых не толькі ручкамі і алоўкамі, але і пальцамі, намазанымі вядомым рэчывам. Так праяўляюцца нашы „паэты" і мастакі, забаўляючыся дзівоснай творчасцю. Дарэчы, частка аўтараў не марнуе энергіі на абы-які лёгкі фальклор. Аддаюцца яны палкай палітычнай дзейнасці, выпісваючы грозныя словы, накіраваныя супраць грамадскай сістэмы, дзяржавы, дзеячоў або супроць чужой нацыянальнасці.

Як жахліва выглядае карціна публічных туалетаў, кожны з нас дасканала ведае. Хто з нас не бачыў дзесяткаў разбітых туалетных ракавін у цягніках? Кожны. Няма сумненняў, што дзікун, які гэта робіць, не паслугоўваецца кулаком. Нясе ён у вагонны туалет або нейкі драўляны таўкач або кусок жалеза, або малаток, каб прабіць дзірку ў моцным фаянсе ракавіны. Калісьці я быў сведкам размовы двух кандуктараў, якія гаварылі паміж сабою, што хуліганы ў адным цягніку прадзіравілі дванаццаць ракавін. Зразумела, што на іх месца трэба ўставіць новыя, якія каштуюць вялікія тысячы злотых. Зрэшты, нярэдка бывае і так (гэту інфармацыю атрымаў я таксама ад кандуктара). што ракавіны б'юць дзікуны ў той самы дзень, у які іх рамонтныя брыгады інсталююць.

Вернемся аднак да „гігіены" публічных туалетаў, якія, як нішто іншае, сведчаць аб культуры нашага грамадства. Ці гэта справа ў іншых краінах выглядае таксама фатальна, як у нас? Не ўсюды. Спашлюся на Амерыку. У ЗША, што мяне вельмі здзівіла, публічныя туалеты бясплатныя. Расказалі мне аб дзівоснай практыцы, якая праяўляецца ў тым, што прадпрыемца можа пабудаваць платны туалет, але толькі тады, калі побач пабудуе другі, бясплатны. Я, едучы на вадаспад Ніягара і ў Дэтройт, заходзіў у прыдарожныя публічныя туалеты. Трэба сказаць, што іх выгляд у нічым не адрозніваецца ад туалетаў у парадачных прыватных дамах. Розніца толькі ў тым, што ў публічных туалетах не адна, а многа кабін. Выключная чысціня, адсутнасць непрыемнага запаху, высокі лоск сцен і ўсіх прылад, папера, вада, мыла — усё гэта выклікае ўражанне чагосьці нар-

(Працяг на стар. 7)




## ПА ПРЫНЦЫПУ СКОРАСШЫВАЛЬНІКА

Звычайны канцылярскі скорасшывальнік падказаў метрабудаўцам Мінска магчымасць у некалькі разоў скараціць расход металу пры будаўніцтве тунеляў. На чарговым пускавым участку першай лініі яны паспяхова выпрабавалі новую канструкцыю жалезабетоннай „абшыўкі" тунеляў, якая, дзякуючы арыгінальнаму спосабу злучэння бетонных кольцаў, у многім стала такой жа трывалай, як чыгунная. Надзейнасць і герметычнасць канструкцыі забяспечылі спецыяльныя „сашчэпкі".

Цяпер на прадпрыемствах прамысловай базы метрабуда завяршаецца пераабсталёўка ліній для выпуску жалезабетонных блокаў новай канструкцыі. Паралельна асвоена вытворчасць новага па саставу бетону. Усё гэта дазволіць шырока выкарыстоўваць навінку на збудаванні другой лініі метрапалітэна, рэзка скараціўшы пры гэтым расход чыгунных цюбінгаў.

## АДЗІН ЗА СТО КАСЦОЎ

„Мора па калена" мадыфікаваным трактарам маркі „Беларусь", якія створаны для работы на рысавых палях і іншых пераўвільготненых глебах. Павышаную праходнасць машыны набылі дзякуючы новаму гумаваму „абутку" — яго выпуск асвоілі бабруйскія шыннікі.

Пакрышкі для задніх колаў такога трактара зроблены з меншым пасадачным дыяметрам, але з больш шырокім профілем, раздаліся ў шырыню і шыны пярэдніх колаў, новы рысунак набыў пратэктар. У выніку трактар стаў больш устойлівым, у руху набыў уласцівасці гусенічнага. А вось удзельны ціск яго на глебу, як таго і патрабуе агратэхніка, зменшыўся. Цяпер „Беларусь" можа дыскаваць і апрацоўваць палі пад пасевы рысу, весці планіроўку чэкаў, залітых вадой. Незаменны ён і на ўборцы траў на забалочаных лугах. Адзін можа працаваць за сто касцоў.

## НА ПРАМЫСЛОВУЮ ПЕРАПРАЦОЎКУ

Адгрузку лекавай сыравіны на прамысловую перапрацоўку пачаў саўгас „Вялікае Мажэйкава" Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Збор, дасушванне і расфасоўка лекавага ўраджаю, вырашчанага больш чым на тысячы гектараў ворнай зямлі, вядуцца машынамі і ўручную. Ужо адпраўлены фармацэўтычным прадпрыемствам першыя тоны аптэчнага рамонку. А ў хуткім часе калектыў адзінай у рэспубліцы гаспадаркі, якая спецыялізуецца па вырошчванні лекавых раслін, пачне адгрузку календулы, валяр'яну, спарынні, сінюхі і іншых рэдкіх раслін. Адсюль сёлета паступіць на перапрацоўку каля 270 тон каштоўнай сыравіны.

## ВЕРХНЯДЗВІНСКУ — 600 ГАДОЎ

Паданні глыбокай старадаўнасці, старонкі гісторыі і сучаснасці ажылі нядаўна ў адзін з выхадных дзён на вуліцах, у парках і скверах старажытнага Верхнядзвінска. Так жыхары аднаго са старэйшых райцэнтраў Віцебшчыны вялікім і маляўнічым тэатралізаваным прадстаўленнем адзначылі шасцісотгоддзе роднага горада.

Тысячы гараджан, гасцей з розных канцоў рэспублікі, сяброў-суседзяў з Прыбалтыкі сталі сведкамі і ўдзельнікамі святкаванняў, прысвечаных знамянальнай даце.

## РЭЦЭПТ ДЛЯ ГРАНІТУ

Не вазіць дарагі граніт, мармур, малахіт, іншыя прыродныя камяні далёка з кар'ераў, што знаходзяцца па-за рэспублікай, а вырабляць іх з адходаў Мікашэвіцкага камбіната нярудных матэрыялаў — такую ідэю прапанавалі беларускія вучоныя. Тэхналогію вырабу заменнікаў, якія па колеравай гаме нават багацейшыя, чым пліты з прыродных горных парод, распрацавалі спецыялісты Мінскагага навукова-даследчага інстытута будматэрыялаў і Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР.

## СПОРТ

✻ Усесаюзны турнір на Кубак „Дняпра" па бадмінтоне адбыўся ў Днепрапятроўску. Паспяхова выступілі ў ім і некаторыя спартсмены з Беларусі. Мінчанка В. Бялюціна заняла першае месца ў адзіночным разрадзе. Потым разам са сваёй зямлячкай Т. Волчак яна перамагла і ў жаночым парным разрадзе.

✻ Пад дэвізам „За дружбу і брацтва" ў маладым венгерскім горадзе Ленінварашы праходзілі спаборніцтвы каманд сацыялістычных краін па парашутнаму мнагабор'ю. Па традыцыі савецкія спартсмены зноў занялі першае месца. А браты Мікалай і Сяргей Чайко — выхаванцы мінскага аэраклуба ДТСААФ — сталі прызёрамі ў асабістым заліку; яны заваявалі адпаведна першае і трэцяе месцы.




## ЯНКІ ПРЫ ДВАРЫ ЕЎРАПЕЙСКІХ МАГНАТАЎ

„Наш канцэрн моцна трымае ў руках усю Еўропу", — адкрыта прызнаў у размове пан Сукуп — адказны супрацоўнік аўстрыйскага філіяла буйнейшага амерыканскага транснацыянальнага канцэрна „Мобіл ойл". Гэта фраза ўсплыла ў памяці, калі на старонках газет паявіліся паведамленні аб тым, што паміж Вашынгтонам і ўрадамі некаторых краін Заходняй Еўропы заключаны сакрэтныя пагадненні аб удзеле іх фірм і ўстаноў у заакіянскай праграме „зорных войнаў". Акрамя чыста пентагонаўскіх мэт — чарговай спробы дэстабілізаваць стратэгічны парытэт, зрабіць новы рывок у гонцы ўзбраенняў, САІ выконвае яшчэ і іншыя функцыі. Вашынгтонскія ястрабы лічаць за лепшае маўчаць аб іх нават у перагаворах са сваімі натаўскімі саюзнікамі.

Размова ідзе аб актыўным пранікненні амерыканскага капіталу на стары кантынент і аб спробе што б там ні было перашкодзіць пашырэнню дзелавога супрацоўніцтва з СССР.

У металургіі, напрыклад, СССР ужо многа гадоў мае трывалыя дзелавыя адносіны з многімі канцэрнамі і фірмамі Еўропы. Нядаўнія кантакты — на ўзвядзенне „пад ключ" Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне, прадпрыемстваў чорнай і каляровай металургіі ў Малдавіі, Расійскай Федэрацыі, на набыццё савецкага абсталявання для фірм Італіі, Аўстрыі, ФРГ, Фінландыі, іншых краін сведчаць аб няўхільным росце ўзаемнай дзелавой актыўнасці.

У той жа час буйнейшыя заакіянскія газеты публікуюць матэрыялы аб трывожных сімптомах у металургічнай прамысловасці ў сябе дома. Так, „Ю.С. стыл карпарэйшн", самая буйная ў ЗША кампанія, толькі за тры месяцы панесла страты ў суме 118 мільёнаў долараў, „Бетлехем стыл карп" — 175 мільёнаў, „Кайзер стыл" паведаміла аб магчымым згортванні вытворчых праграм.

Адначасова з гэтым Злучаныя Штаты запатрабавалі ад сваіх еўрапейскіх партнёраў значна скараціць экспарт металургічнай прадукцыі па II катэгорыях тавараў.

Калі сапернікі добраахвотна не згаджаліся на ўмовы ЗША, рабіўся палітычны націск на ўрады краін. Напрыклад, італьянскія і заходнегерманскія прадпрыемцы ў якасці кампенсацыі „былі дапушчаны" да кармушкі Пентагона і атрымалі сваю долю ў праграме „зорных войнаў". Французскім бізнесменам публічна прыгразілі, шведскіх прымусілі скараціць вытворчасць, у далёкай ад радовішчаў „чорнага золата" Аўстрыі быў наладжаны буйнейшы ў гісторыі гэтай краіны нафтавы крызіс, які прывёў да банкруцтва фірм „інтэртрэйдзінг", „Меркс".

„Інтэртрэйдзінг" была звязана з аўстрыйскім канцэрнам „ФЕСТ-Альпіне АГ", і яго паражэнне ў барацьбе з нафтавымі гігантамі выклікала крызіс у металургіі альпійскай рэспублікі.

Выходзіць, меў рацыю пан Сукуп?

Сапраўды, кіраўнікі шэрагу фірм Заходняй Еўропы на нейкім этапе сваёй кар'еры, як правіла, прайшлі школу падрыхтоўкі ў адной з амерыканскіх карпарацый.

**Б.В.**

(Працяг са стар. 1)

# ЧЫМ БУДЗЕМ ЗАЙМАЦЦА

Купалле — дайшоўшы да нашых дзён старажытны абрад, цікавае і прыгожае свята, напоўненае паэзіяй, песняй і музыкай, прасякнутае любоўю да ўсяго роднага, — заваёўвае ў нашым асяроддзі ўсё большую папулярнасць і пераўтвараецца ў новае масавае свята. За прыкладам Беластоцкага аддзела БГКТ які ўпершыню наладзіў святкаванне купалля ў 1985 годзе. у гэтым годзе пайшлі Гайнаўскі і Нараўчанскі аддзелы Таварыства. Спадзяемся што ў наступным годзе святкаванні купалля арганізаваць будуць многія нашыя гурткі і аддзелы.

У маі і чэрвені 1987 года аддзелы БГКТ у гарадах Беласточчыны, уключаючыся ў суарганізатарства мясцовых культурных мерапрыемстваў, прадбачаць правядзенне дзён беларускай культуры. У рамках гэтых дзён будзем паказваць нашы аматарскія калектывы, наладжваць тэматычныя выстаўкі, папулярызаваць дасягненні беларускай нацыянальнай меншасці ў галіне культуры.

У вясковым асяроддзі традыцыйна ўжо будуць адбывацца беларускія народныя фэсты. У гуртках і аддзелах БГКТ на працягу цэлага сезона праводзіцца будуць аўтарскія сустрэчы з „белавежцамі", акадэміі і вечарыны. прысвечаныя важнейшым гістарычным падзеям і гадавінам.

Звяртаемся з заклікам да членаў і сімпатыкаў БГКТ, да вучняў і студэнтаў. да моладзі ў гарадах і вёсках, да ўсіх тых. каму ўсё роднае блізка сэрцу, уключацца ў падрыхтоўку і правядзенне культурных мерапрыемстваў, арганізаваных нашым Таварыствам.

**Віталій Луба,**
**сакратар ГП БГКТ**



Самадзейнікі з Пiлiпкаў. Фота М. Гайдука.

(Працяг са стар. 1)




## ПАПАРАЦЬ КВЕТКА І... АСОТ

слабейшыя калектывы, быў ён здэгуставаны і таму парнуў асотам пад рэбры арганізатарам агляду. Здалося яму, што гэта „гарох з капустаю". Паважаны сябра К. Сідаровіч! Шкада, што мы з вамі незнаёмы, тады мы з вамі там жа, на месцы, пагутарылі б і напэўна прыйшлі б да высновы, што ў агульным аглядзе цяжка аддзяліць гарох ад капусты. Вось менавіта пасля агляду можна будзе падаць на асобных талерках „гарох" і „капусту", запраўленыя па смаку.

Згаджаюся з вамі, што было нямала тэхнічных недахопаў: слабая сцэнаграфія, не надта дасканалы музычны фон, але ж усё гэта ў будучыні можна наладзіць. Мне таксама не падабалася тая блытаніна дратоў на сцэне, якая напамінала больш нейкую генеральную рэпетыцыю, чым святочны канцэрт. Але такая ўжо цяпер настала мода на сцэнічную тэхніку, што без яе проста не могуць абысціся. А магчыма, што нашы калектывы яшчэ не зусім умела карыстаюцца ёю.

Ваш голас у гэтай справе, паважаны сябра Кастусь Сідаровіч, быў патрэбны. Думаю, што арганізатары і ўдзельнікі не пагневаюцца на вас за гэта. Усякай дзейнасці, а тым больш мастацкай, патрэбна не толькі пахвала, але і крытыка. Без крытычных заўваг не можа развівацца ніякая галіна мастацтва, а нашыя ж тэатральныя калектывы пасля даволі доўгага перапынку толькі пачалі развівацца. Дык жадаю ім поспехаў і прыхільнасці гледачоў і крытыкаў.

**Г. Анішэўская**

(Працяг са стар. 3)

## ГРЫБЫ

чырвоны надпіс: „Эрос". І да чаго яна? Засунуў я яе ў кішэнь і пайшоў далей. Зноў напароўся на нейкія дошкі і дылі.

„Ну, і добра, — падумаў я. — Варта прысесці, перакурыць і перакусіць. А то за зяцевым пачастункам пад маю свежыну не было і часу падумаць аб Палашчыных канапках, гэтых бутэрбродзіках, навукова кажучы"

Перакусіўшы, я накіраваўся ў лес, у напрамку дарогі, дзе, па майму меркаванню, знаходзіўся зяцеў аўтамабіль. Урэшце скончыўся лес і пачыналася свежа заараное поле. Прысеў я на скібе, каб крыху аддыхацца. Гляджу, а тут, на прылеску, у траве, суцэльным абрусам маслючкі высыпаліся. Слізкія, цвёрдыя, маладзенькія. За кароткі час запоўніўся мой кошык, які я і завалок дзецям у Беласток.

— Мы ўжо і ў хуткай дапамозе правяралі, і ў міліцыю званілі, — паскардзілася дачка. Слухаць не было сілы. Зваліўся я на адведзены мне тапчан і тут жа заснуў. Ноччу разбудзіў мяне пранiклівы роў сірэны, і зараз жа ў хаце паявіліся людзі ў белых халатах ды забралі з сабою нашу Еўку з яе, ну, мужыком, ці як яго там.

— Якіх грыбоў тата назбіраў! — скрозь слёзы накінулася на мяне дачка. — Гэта татавых грыбоў Еўка насмажыла сабе і свайму хлопцу, ну і... — зараўла плачам мая дачка. — Каб хоць адратавалі!

І што я мог ёй адказаць? Проста стары грыб і годзе!

**Максім Нурэцкі**

(Працяг са стар. 1)

# ПАД ЗЯЛЁНЫМ СЦЯГАМ

лучаць сваю будучыню з сялянскім краявідам. І намаганні ідуць менавіта ў гэтым напрамку. Людоўцы, для прыкладу, дамагаюцца, каб у бюджэце Беластоцкага ваяводства на патрэбы вясковай гаспадаркі адводзілася зараз не менш 40 прац. усіх грашовых сродкаў, прызначаных на новыя капіталаўкладанні. Хто не пасее, той і не збярэ ўраджаю. Затрачаныя сродкі мала-памалу вернуцца з надбаўкай.

Вось у час гэтай нарады выступаў адзін з малодшых актывістаў Аб'яднанага людовага старонніцтва, радны ВРН у Беластоку, дзейсны гаспадар з вёскі Навасады ў Заблудаўскай гміне Адам Бабуль. Гэта гаспадар з вышэйшай адукацыяй. У 1979 годзе закончыў ён аддзяленне заатэхнікі Галоўнай школы вясковай гаспадаркі ў Варшаве. Раней ужо рашыў, што вернецца на бацькаўшчыну. Бацька перадаў яму 7 га запушчанай, пырнікам зарослай зямлі, у саставе якой найбольш было поля шостага класа. Жылі яны ў драўлянай хатцы, якая памятала яшчэ цара Мікалая. Не было аніякіх машын і сельскагаспадарчых прылад.

— Адным словам, — гаварыў гаспадар з дыпломам, — усё даводзілася пачынаць ад нуля. Асновай быў мой энтузіязм маладога чалавека і непахісная вера, што зямля адплаціць дабром, калі задбаць пра яе, калі ўмела і дбайна папрацаваць над яе ўраджайнасцю.

Адам Бабуль, каб хутчэй мець нейкі прыбытак на далейшыя, болей сур'ёзныя капіталаўкладанні, на першы пачатак прыстасаваў аграмадную бацькоўскую клуню да гадоўлі свіней, па 200 штук у адзін заход. Дагаварыўся з беластоцкім мясакамбінатам, які прымаў ад яго гэты жывы тавар. У замен папаўняўся грашовы рахунак маладога гаспадара ў спулдзельчым заблудаўскім банку. Калі ўжо крыху абжыўся, тады прыйшоў да вываду, што лягчэй яму будзе займацца гадоўляй курэй і здаваць яйкі дзяржаўнаму прадпрыемству. У 1984 годзе перарабіў даўнейшую клуню на куратнік, у якім 2000 кур кожны дзень зносяць яйкі.

За Адамам Бабулем ужо сем гадоў самастойнага гаспадарання. За гэты час павялічыў ён сваю гаспадарку да 45 га зямлі, купляючы яе ад дзяржавы, прыдбаў сельскагаспадарчыя машыны і пабудаваў гаспадарчыя будынкі. Адначасова дабіўся высокага ўраджаю, які ў гэтым годзе склаў у сярэднім 35 цэнтнераў з кожнага гектара пасеваў. Як на ўмовы Беластоцкага ваяводства, гэта вельмі ж высокі паказчык, хаця Адам Бабуль публічна заяўляў, што мэтай яго з'яўляецца 45 цэнтнераў з га збожжавых культур. І паспеў ён таксама заснаваць ужо сям'ю. Удалося яму пераканаць маладую дзяўчыну, студэнтку першага курса, што шчасце чакае яе ў вёсцы, разам з ім, Адамам. Жывучы ў вёсцы, яна ўжо завочна закончыла сваю вышэйшую школу.

Прыклад, вядома, заманлівы, але ён, на жаль, адзіночны, адасоблены. Звычайны дзень тыповай вясковай гаспадыні пачынаецца ў нас найчасцей у **чатыры** гадзіны раніцы, значыць, надосвітку, а канчаецца пасля **дзесяці** вечара. Значыць, 18 гадзін на нагах, як конь у манежы, без магчымасці перадышкі, хіба што ў вялікае свята, калі, падаіўшы і накарміўшы кароў, не трэба спяшацца ў поле, а толькі ў царкву ці касцёл, калі яшчэ гэтага захочацца.

Каго заманіш у вёску такой перспектывай? І няма чаго здзіўляцца, што вясковым бабылям так цяжка заснаваць цяпер нармальную сям'ю.

А да таго ж, — і гэта таксама голас прадстаўніка маладых людоўцаў, прысутных на гэтай нарадзе, старшыні ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі, — вясковую гаспадыню, асабліва маладую маці, права трактуе амаль як служанку. Калі, для прыкладу, разглядаюць заяву на месца ў прадшколлі, дык просьбу маладых вяско-

# Канюкі

— Чатыры будзе, — сказала мне жанчына, якая сядзела на лавачцы ў Цялушках.

Паказалася сонца. Пахне аерам і мокрай ліствой. З-за дрэў выглядаюць драўляныя хаты з рэзбленымі вугламі і шчытамі. На электрычным стаўбе, які стаіць побач шырокай вуліцы, велізарнае гняздо бусла („яно ўвечары аж іскрыцца, а ён сабе жыве!“).

Буду бачыць вялізны разрослы куст каліны, там будзе і хата солтыса. Ну, ёсць ужо невялічкі домік, дзе жыве Пятро Тураўскі.

— Мы ўжо чакаем. А калісь якаясь зараза так апісала Канюкі! Будзе дваццаць, не, больш гадоў таму назад... Ну, што тут — ні дарогі, ні плоту, а толькі гэтае буслінае гняздо. Прывёз гэтую выразку нядаўна адзін ваш карэспандэнт на веласіпедзе і кажа: „Прачытайце! Ну, і што тут у вас, пане Тураўскі, змянілася?“ А я гавару: „Прыедзьце да нас праз якіх два гады, тады пабачыце. Мы тут ужо дзейнічаем. Гэтую святліцу (Ірынка вам яе пакажа), мы хочам дабудаваць ужо чатыры гады. Стаіць голы мур без даху. Наша вёска добрая, дружная. Можна што хочаш зрабіць, толькі каб нам трохі дапамаглі! У нас ёсць і майстры, і кавалі. Ано матэрыялу і якога кіраўніка работы на тую святліцу нам трэба.

Нарэзалі мы былі дрэў, падрыхтавалі — хацелі купіць на рахунак, а ляснічы ўзяў ды прадаў тое дрэва іншым. А многа дрэва трэба будзе: на бэлькі, на кроквы, на падлогу. За гэтыя грошы з грамадскага фонду (паўмільёна) многа можна зрабіць.

Ужо смяюцца ў вёсцы, і мне самому сорамна. Усё абяцаюць, абяцаюць... Быў кіраўнік ад спраў будовы і „выканаўца“, і сказалі, што па каталіцкіх святах пачнецца работа. „Хутка прывязіце жвір, каб відна было, што работа ідзе“, — параіў кіраўнік. Ну, і мы святам паехалі, а цяпер 54 фуры жвіру ляжыць, а дзеці яго распоўзваюць...

Як цяпер я быў у гміне, а вы званілі, што прыедзеце, то я сказаў, каб падалі мне, калі канкрэтна пачнецца работа, бо мушу падаць інфармацыю ў газету. „А якая газета?“ — пытаюцца. І абяцалі, што пасля 24 чэрвеня ўсё пачнецца. Напэўна! Многа раз так абяцалі. Мне ўжо надакучыла так у гэтай справе ездзіць 4 гады. А мур нішчэе. 24 чэрвеня! А гэта нам цяпер не падыходзіць. Мы хацелі з вясны, а цяпер то сенакос, то жніво... Запрашаем на распачацце дзейнасці святліцы...

Жонка солтыса падае яму нейкую паперу, якую раней прынёс пісьманосец.

— Ну, урэшце будуць капаць. Нашу Чорную Рэчку дакапалі да граніцы вёскі. Як толькі вада дасць, то скрозь усё залівае. Гавораць: там птушкі рэдкія вядуцца, гэта праўда. Ходзіць тут адзін фазан (бажант) з самкаю — і бабры ёсць. І так нас саміх бабрамі зрабілі. „Рэчку далей не будзем капаць, для аховы прыроды, гэты адзін кіламетр“. Сена выкасіў, а раніцай — сена паплыло. І так штогод ад таго часу, калі рэчку пракапалі. Шырокая ў 4—5 метраў, а тут вузенькая, і рве ўсё. Ну, ідзіце паглядзець святліцу, і вёску таксама!

— Ты бачыла дзе ў якой вёсцы столькі дрэў? — пытаецца горда Ірына, мой праваднік.

Канюкі — вялікі агарод. Растапырваюць голле старыя дрэвы, цвіце, як ашалелы, дзікі бэз, на руінах (многа іх!) красуецца пышная крапіва і велізарныя лапухі. Вёска забудавана даволі густа, і таму так прыкметныя гэтыя праломы — зарослыя густою травой панадворкі, дзе відаць толькі старажытная каменная падмуроўка ці абгарэлы комін і кавалак пачарнелай глінянай печкі. Хаты таўпяцца пры вуліцы, з-за вербаў, бэзаў і парэчак, а за плячыма іх пачынаюцца, бягучыя ўніз да рэчкі, неагароджаныя паплавы і рачулка з берагам, парослым аерам. На скаце аднаго поплава ў бок ракі глядзіць, падняўшы лапы, драўляны мядзведзь Уладзіміра Наўмюка. Гэта пачатак вёскі. Тут стаяць два крыжы. Адзін высокі, счарнелы ад старасці, вымыты нязлічанымі дажджамі, правеяны вятрамі. А побач яго — новы, з сучаснага штучнага мармуру, на якім жыхары просяць Бога, як прад вякамі, каб сцярог іх вёску ад заразы, раптоўнай і непатрэбнай смерці, агню, лішняй вады, ад „труса“ і ад вайны. А вось і старая школа, без вокан. Няма дзе нават сход зрабіць. Адна магчымасць, каб сустрэцца і пацешыцца — гэта крама. У дзень будні і ў святы сцягвае сюды цэлая ваколіца. А вёска турыстычная, колькі летам тут палатак ды байдарак! А сёння нядзеля, і моладзь ёсць у вёсцы. Мішка едзе з водпуску ў армію. На лавачцы прыселі Лёнік, Ірка, Галіна. Гутарка ідзе аб учарашняй забаве ў Плёсках. Хто з кім танцаваў, хто як быў апрануты... Не бракуе таксама мовазнаўчых тэмаў („а пад Семэноўкаю так гаворат, а ў Нарве...“). А пасля едзем, як тое вяселле, поўнай з берагамі фурманкай на прыпынак у Цялушкі. Маладыя завітаюць дахаты праз тыдзень. Гавораць, зноў забава будзе ў суседняй вёсцы...

Ужо канец верасня. Нягледзячы на хадатайнічанне жыхароў, яшчэ гэтую восень і зіму шчарбатыя сцены „святліцы“ здорава абкусае зуб часу. З вясною новае пустазелле прагна кінецца крышыць тое, што засталося яшчэ стаяць. Але хто і чаму ўпіраецца крышыць намаганні, энтузіязм і працу жыхароў Канюк?

**Міра Лукша**




## КАЛІ БУДЗЕ ПАРАДАК?

На Спаса, пад вечар, пайшла я з малымі забраць пасвенчаныя яблыкі ад бабы Барвы. На лаўцы, што пад плотам цёткі Марысі, сядзела яе сястра Жэня і маці. Пакуль я збіралася ісці дадому, цётка Жэня сказала:

— Я ўжо не раз прыбіралася схадзіць да цябе, каб ты куды напісала.

— Каб што я напісала? — здзівілася я.

— Як гэта, каб што?! Сама паглядзі — у цэлай Семяноўцы няма святла на вуліцы, усяго тры лямпачкі гарыць: каля солтыса, каля пошты і каля крамы. І больш ні святлінкі нідзе, а ў такіх Пасеках усе лямпачкі гараць, асвятляюць. Кажуць, ад солтыса ўсё тутка залежыць, уся гэтая святлота. Гэта ён павінен наказаць у гміну, каб паправілі. А ты пішаш у газету, то напішы і пра лямпачкі ў Семяноўцы, можа што і паможа тваё пісанне...

Цётка Жэня загаварыла і пра аўтобус: ездзіць па новай трасе, у Семяноўцы становіцца ён толькі на Новым сяле. Ідзі цяпер да таго аўтобуса цераз усю вялікую вёску. А мог бы быць яшчэ адзін прыпынак, хаця б каля Кулешы. Ужо было б бліжэй многім да сваёй хаты. То ж аўтобус усё роўна гэтай дарогаю ездзіць на Баб'ю Гару.

Баба Верка пацвердзіла:

— Гэта праўда, мог бы аўтобус спыняцца каля крамы або каля Кулешы, усё было б шмат бліжэй. Чаму гэта ён так не робіць, праязджаючы толькі, як у нічым не бывала...

— Напісаць пра тое я магу, але ці вынік які будзе? — пачала сумнявацца я.

— А ты паспрабуй! — заахвоцілі яны мяне. — Можа і будзе...

І я, во, пішу.

**Аўрора**

вых гаспадынь, пры недахопе месц, найчасцей адхіляюць, бо ў гаспадароў дзіця, быццам, мае ўласную апеку. Адгэтуль і бяруцца розныя, звычайна вельмі цяжкія няшчасныя здарэнні, у выніку якіх здароўе, а бывае, што і жыццё, трацяць малыя вясковыя дзеці, бо маці з бацькам у полі, бо жывіна не пачакае, ды й за камбайнам неадкладна трэба панаглядаць.

Дык лягчэй сплюнуць на ўсе клопаты сялянскага жыцця і хай гэтая ўсходняя „сцяна“ зарастае лесам ды крапівою!

Звярнуў увагу на гэту праблему і сам старшыня Ваяводскага камітэта ЗСЛ у Беластоку Рышард Нявінскі. Гаварыў ён, што Аб'яднанае людовае стронніцтва ў Беластоцкім ваяводстве з асаблівым клопатам адносіцца да эканамічна-грамадскіх патрэб усходніх і паўднёвых раёнаў Беласточчыны. Адплыў маладых, найбольш прадукцыйных сіл з гэтых раёнаў не кампенсуюць павышаныя пастаўкі сельскагаспадарчай тэхнікі, у першую чаргу трактараў і другіх дэфіцытных машын, якія змаглі б падмяніць недахоп рабочых рук. Нібы правільны прынцып, што прыдзел на трактар ці на што іншае атрымоўвае толькі той гаспадар, які рэкамендуецца высокімі паказчыкамі прададзенай прадукцыі, ва ўмовах Беласточчыны трэба ацаніць крытычна, бо даводзіць ён да таго, што заможныя гаспадары, у якіх дастаткова рабочай сілы, становяцца яшчэ болей багатымі, а бедныя сяляне, без перспектывы на перадачу сваёй гаспадаркі нейкаму наследніку, не маюць проста чым заманіць пад свой бедны дах маладых людзей, ахвотных прысвяціць сваё жыццё працы ў вёсцы.

Людоўцы супольна з ваяводскай партыйнай арганізацыяй далі да таго, што ВРН прыняла адпаведную пастанову па справе загаспадарання ўсходніх раёнаў Беласточчыны. Аднак гэтая праблема перарастае рэальныя магчымасці аднаго Беластоцкага ваяводства. Амаль 30 тысяч дзяржаўнага фонду зямлі, зямлі пераважна занядбанай, чакае тут свайго гаспадара. Устарэлае вясковае будаўніцтва і дзесяткі іншых праблем, як доступ да школ і да гандлю, умовы культурнага жыцця і г.д., патрабуюць неадкладнага вырашэння. Неабходна тут дапамога і спагада цэнтральных улад і не толькі ў галіне адной вясковай гаспадаркі...

Траціць жа не адно Беластоцкае ваяводства. Затраты адмоўна ўздзейнічаюць на агульны кармавы баланс цэлай краіны. Адсюль выплывае неадкладная патрэба гаспадарчай і грамадскай актывізацыі ўсходняй тэрыторыі Беластоцкага ваяводства.

Гэтыя заўвагі былі перш за ўсё накіраваны ў адрас прысутных на нарадзе людоўцаў, прадстаўнікоў цэнтральных улад: маршалка Сейма **Рамана Маліноўскага** і намесніка старшыні Рады Дзяржавы **Тадэуша Шэляхоўскага.** Абодва яны сваю палітычную і грамадскую дзейнасць пачыналі на Беласточчыне, пад зялёным сцягам ЗСЛ, і людоўцы Беластоцкага ваяводства не скрывалі сваёй надзеі, што разлічваюць на іх спагаду. На жаль, Раман Маліноўскі не меў чым парадаваць сваіх партыйных калег.

— Патрэбы краіны, — гаварыў ён, — на новыя капіталаўкладанні ацэньваюцца ў 17 більёнаў злотых, а рэальныя магчымасці састаўляюць ледзь 10 більёнаў зл. І гэтакі ўзровень новых інвестыцый будзе дапушчаны ў нацыянальным грамадска-гаспадарчым плане на гэтую пяцігодку, які яшчэ ў гэтых месяцах будзе пастаўлены на разгляд паслам у час асенняй сесіі Сейма. Трэба тады выбіраць, што найважнейшае, а што менш важнае і можа яшчэ пачакаць да лепшага часу.

Для нас, беларусаў з усходніх і паўднёвых раёнаў Беласточчыны, найважнейшай, вядома, справай з'яўляецца гаспадарчае і грамадскае адраджэнне гэтай тэрыторыі нашай краіны, нашых родных старонак. І прыемна нам ведаць, што гэтую праблему бачыць таксама партыя, якая сваіх членаў згуртоўвае пад зялёным сцягам.

**Віктар Рудчык**

## У спецыфічнай гміне



Нараўка. Не скажаш, што гэта вёска. Тут не адна вуліца і не тры вуліцы. Іх напэўна налічыш больш дзесятка. Але і нельга сказаць, што Нараўка мястэчка. Няма тут блокаў, няма тут прадпрыемстваў, няма нават Дома культуры і саліднага асяродка аховы здароўя. Добра што ёсць рэстаран, у якім можна што-небудзь з'есці, асабліва прыехаўшаму чалавеку. А прыязджаць сюды варта, нават на адпачынак. Вабіць да сябе гэтая мясцовасць прыроднай прыгажосцю. Раскінулася яна над рэчкай з такою самаю назваю. Побач яе з захаду лясы Лядскай пушчы, а ад усходу — лясы Белавежскай пушчы.

Нараўка — гмінны цэнтр. Тут, як у кожнай амаль гміне, апрача гмінных улад ёсць ГС, СКР, пошта, ды яшчэ ветэрынарная лячэбніца і аптэка.

Нараўкаўская гміна спецыфічная. 2/3 яе займае лес. Зямельныя ўгоддзі ў 70 працэнтах маюць зямлю 5 і 6 класа. Трыццаць тысяч гектараў „просяцца" меліярацыі. У 23 салэцтвах 26 працэнтаў гаспадароў, якім ужо за шэсцьдзесят год. Значыць, хутка яны перастануць гаспадарыць, а дзяржаўны фонд зямлі тут будзе павялічвацца, хаця ўжо і цяпер ён налічвае больш як тысячу восемсот гектараў. Значыць, небеспадстаўна нараўчанскія ўлады будуць імкнуцца стварыць ПГР.

Амаль усе гаспадары гміны працуюць яшчэ ў розных установах Нараўкі, на керамічнай фабрыцы ў Ляўкове і 160 чалавек працуе на лясных пасадах. Вольны час ад працы ў сваіх установах і на прадпрыемствах выкарыстоўваюць яны на працу ў гаспадарцы. Пакуль што на нізкаякасных землях дасягаюць ураджаю збожжа ў граніцах 22 цэнтнераў з аднаго гектара. На колішні час гэта быў высокі паказчык ураджаю, а на сённяшні недастатковы. Аднак, і такія плёны апраўдваюць апрацоўку зямлі, паколькі спрыяюць яны ў значнай ступені рэалізацыі дзяржаўнай праграмы пракармлення народу.

Наведаў я гміннае ўпраўленне ў Нараўцы ў маі напярэдадні людовага свята.

— Крышку пачакайце — начальнік хутка прыедзе Паехаў ён пабачыць, як рыхтуецца фэстын у Свінароях з нагоды свята селяніна, — гаварыла сакратарка. Не мінула нават дзесяці мінут — і з'явіўся Мікалай Павільч. Неяк адразу разгаварыліся мы аб вышэй сказаных справах, пачынаючы ад спомненага фэстына і яго мастацкай часткі, у якой выступяць іх уласныя харавыя калектывы. А існуюць яны ў Нараўцы, Ляўкове, Семяноўцы і Міклашэве. Маглі б быць таксама ў Скупаве і Тарнопалі, але няма інструктараў, якія б маглі іх павесці.

Мікалай Павільч з'яўляецца старшынёй Нараўчанскага аддзела БГКТ, які пачаў існаваць тут ад 6 сакавіка мінулага года. Гэта нешта новае ў Нараўцы. Яго тут ніколі не было і ён толькі працірае сабе дарогу. Але каб асмеліць, заахвоціць да актыўнага дзеяння ў БГКТ мясцовых беларусаў, даць ім маральную падтрымку з боку гмінных улад, на БГКТ-оўскай арганізацыйнай канферэнцыі ў Нараўцы Мікалай Павільч згадзіўся ўзначаліць праўленне аддзела. Цяпер БГКТ у Нараўчанскай гміне налічвае больш як 240 членаў, аб'яднаных у 14 гуртках.

— Не хапае мне часу дэтальна займацца ўсімі справам БГКТ, — тлумачыць начальнік гміны і падкрэслівае адданасць беларускай справе Міхася Панфілюка, пенсіянера, які раней працаваў на працягу многіх год пісьманосцам і ведае ў гміне амаль усіх людзей.

Наш старшыня з'яўляецца энтузіястам спорту. Узначальваў ён футбольны клуб, здабыў нават кваліфікацыі інструктара спорту. Цяпер Мікалай Павільч з'яўляецца прэзасам гміннага праўлення ЛЗС.

Нашу размову перарываюць тэлефонныя званкі. Адзін датычыў супрацьпажарных басейнаў, якія будуць будавацца ў Ляшуках, Міклашэве, Масеве і Крыніцах. Другі тэлефон быў звязаны са справамі ГС-аўскага гандлю і яго недахопамі, а трэці — з меліярацыяй у Тарнопалі, дзе 92 гектары падмоклага грунту ўздатняюцца для апрацоўкі.

Да начальніка гміны звяртаюцца людзі з усякімі справамі, вялікімі і малымі. І ён дае ім кампетэнтныя адказы, а калі трэба, падказвае, як вырашаць тое ці іншае пытанне. Ён добра ведае сялянскую псіхіку, бо сам з'яўляецца сынам селяніна з Навасадаў, што ў Міхалоўскай гміне.

Мікалай Павільч — малады чалавек. Яму няма яшчэ 30 год. Пасля заканчэння Эканамічнага тэхнікума ў Бельску-Падляшскім у 1976 годзе, пачаў ён працаваць у нараўчанскім ГС-е, а пазней у гміне, спачатку рэферэнтам унутраных спраў, пасля сакратаром гміннага ўпраўлення. Тут, у 1981 годзе ўступіў у рады ЗСЛ. Ад жніўня 1984 года з'яўляецца начальнікам гміны.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара

## Вёска Мора

Гэтая вёска знаходзіцца ў чатырох кіламетрах ад шашы з Бельска ў Гайнаўку і налічвае дзевяноста гаспадароў, якім ужо дваццаць дзевяты год салтысуе Алёша Філіманюк, а ў краме таксама нямала працуе Ніна Садко. Малако прымае Вера Баўтрамюк, а пажарнікамі камандуе Тамаш Лаеўскі. Ёсць у Моры і ўсякія гурткі, і клуб „Руху" ёсць, у якім, як кажуць мясцовыя людзі, анічога для культуры не зроблена яшчэ, ані канцэрт які не наладжаны, ані пісьменніка ці паэта не запрасілі (у школу — так!), хоць народ тутэйшы ажно прападае за сваім, за роднай песняй і прыгожым словам.

Ёсць затое ў Моры водаправод, які нават і не сніўся дзядулям і бабулям. Аднак, водаправод той так паклалі, што ўсю вуліцу зруйнавалі, „піхач" той разваліў брук ушчэнт, у асеннюю гразнечу то і возам цяжка будзе па ёй праехаць, не кажучы пра аўтамашыны ці трактары. Чаму гэтыя работнікі, калі прыедуць цывілізаваць якую вёску, то мусяць усенька аж так паразвальваць у ёй? — думалася мне. — Гэта ад непашаны да людской працы, ад непашаны, урэшце, і да саміх сябе (даволі паслухаць іх лаянку). Была, вядома ж, і аварыя ўжо ў гэтым цудным водаправодзе, дзірка нейкая зрабілася ў правадах, дык зноў капаніны тае нарабілі работнікі і ўсё пасля ўздырдыганам пакінулі.

Умельцамі сярод мараўчанаў лічацца Ніна і Пятро Швэды ды Анюта Баравік. Яны вырабляюць прыгожыя каробкі для продажу. Вялікім гадоўцам авечак з'яўляецца Расціслаў Масальскі. У яго трыста штук іх. А моладзь сама аднавіла сабе святліцу.

Святкуюць тут Ілью, народ тады едзе ў прыхадскую царкву, што ў Старым Корніне. Ёсць і свята Тэклі. Багаслужбу прыгожа адпраўляюць бацька з сынам — Русіновічы.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Шляхам гадоў

### СУСЕДЗІ

Дзівосным збегам акалічнасцей на заранку паўставання і мацавання Старабеларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — двойчы ўстаюць асобы князёў, продкі якіх паходзяць з полацкага князеўскага роду. Першымі былі Рынгольд і сын яго Міндоўг — іхняе радаслоўнае дрэва вырасла, паводле некаторых летапісцаў, са старажытнага полацкага роду Рагвалодавічаў. Калі ж панаванне Рынгольдавічаў перарвалася беспатомнай смерцю Войшалка ў 1267 годзе, зноў з асяроддзя тадышніх князёў полацкіх вылучылася выдатная асоба Віценя, які паслядоўна змагаўся за ўз'яднанне рассыпанага пасля смерці Трайдэна на абасобленыя ўдзельныя княствы Вялікага княства Літоўскага.

Хто ж такі Віцень? Сённяшнія гісторыкі Беларусі лічаць яго сынам полацкага князя Гердэня. Непрыхільныя ўсходнім славянам, а ў тым ліку і беларусам, гісторыкі намагаюцца даказаць, што Віцень — гэта сын казачнага князя Пукувера, які быццам бы быў уладальнікам Аўкштоты. Іншыя ж, ідучы следам за крыжацкімі і некаторымі старабеларускімі хронікамі і летапісамі, бачаць у асобах Віценя і ягонага брата Гедыміна сыноў не меней казачнага Лютувера, які быццам бы служыў у Трайдэна маршалкам. Пасля беспатомнай смерці Трайдэна ў 1281—2 г.г. гэтыя „маршалкавічы", нібыта перахапілі ўладу і далі пачатак новай дынастыі вялікіх князёў літоўскіх.

Цвяроза глянуўшы на гэтыя красачныя і займальныя, але ўсё ж такі выдуманыя казкі, можна з іх вылушчыць адно толькі зерне праўды: Віцень як сын падлеглага Трайдэну полацкага князя Гердэня знаходзіўся на яго двары ў Навагрудку на палажэнні заложніка, які гарантаваў вернасць бацькі вялікаму князю. З бегам часу Трайдэн, не маючы сваіх дзяцей, мог, як заўзята паўтараюць амаль усе беларускія летапісы, запрапанаваць сваім вяльможам-радзе: „Выбірайце сабе гаспадара дарослага, які б змог абараняць гэтую дзяржаву. Вялікае княства Літоўскае, а здаецца мне, што на гэта быў бы годзен Віцень..." — як чытаем у Хроніцы быхаўца, а Хроніка літоўская і жамойдская дадае, што Віцень быў „мужам храбрым ды з гербу і роду старажытнага".

Тыя ж летапісцы згодна пераконваюць нас, што паны-рада ахвотна ўзвялі на вялікае княжанне Віценя. Аднак не можа не здзіўляць тое, што больш за дзесяць год пасля смерці Трайдэна нічога не чуваць пра Віценя. Толькі пад 1293 годам паяўляецца ў летапісах яго імя. Не будзе беспадстаўнай здагадкай меркаванне, што ўсё тое дзесяцігоддзе наступнік Трайдэна мусіў весці не толькі змаганне са сваімі канкурэнтамі за вялікакняскі пасад, але і адбіваць усё часцейшыя атакі лівонскіх (інфлянцкіх) і прускіх крыжакоў.

(Працяг са стар. 7)

## СУСЕДЗІ

расць і захопнікаў пазбавілі коней і правіянту. Тыя, паміраючы з голаду ды жывячыся карэннямі, ледзь даваlakліся за шэсць тыдняў да крыжацкіх уладанняў. Варта дадаць, што сярод кемлівых гарадзенскіх дружыннікаў былі таксама жыхары крэпасцей, рассыпаных па тэрыторыі паўночна-ўсходняй Беласточчыны, рэшткі якіх па сённяшні дзень захаваліся ў Аляксоўшчыне, Гарадзішчанах, Трасцяніцы, Гарадку і іншых мясцовасцях.

Змагаючыся супраць крыжацкага націску, Віцень настойліва шукаў саюзнікаў. І гэта яму ўдалося. На поўначы ён заключыў у 1298 годзе вельмі карысны для Вялікага княства Літоўскага, бо накіраванае супраць тэўтонскага ордэна, пагадненне з мяшчанамі горада Рыгі. Пры дапамозе дружын з Вялікага княства Літоўскага рыжане здабылі рыжскі крыжацкі замак, разбурылі яго, а рыцараў перабілі. Затым запрасілі для абароны свайго горада Віценевы дружыны і пабудавалі ім спецыяльны „літоўскі“ замак. На жаль, саюзнікі праз год былі разбіты крыжакамі.

Значна больш плённым аказаўся саюз Віценя з князем бжэска-куяўскім і прэтэндэнтам на польскую карону Уладзіславам Лакеткам. Абодва яны дасканала ўсведамлялі пагражаючую польскім, літоўскім і беларускім землям смяротную небяспеку з боку крыжакоў.

Віцень замацаваў саюз вельмі патрэбнай тады Лакетку вайсковай дапамогай. Вялікі князь літоўскі на чале значнай колькасці дружыннікаў (летапісы гавораць пра тысячу восемсот вояў) „цішком, лясамі ў Лэнчыцкую зямлю (паўночная частка сённяшняга Лодзінскага ваяводства — М.Г.) пранік“. Яны „кляштары, касцёлы разбурылі, людзей духоўных і свецкіх высокапастаўленых і звычайных у палон пабралі, потым сёлы і мястэчкі агнём і мячом знішчылі і з вялікай дабычай і разнастайным палонам павярнулі назад. Аднак князь лэнчыцкі Казімір са сваімі дружынамі дагнаў іх каля Сахачэва. Мужна біўся ён за сваю айчыну, адхіліўся ад сваіх дружыннікаў, якіх перабілі Віценевы воі. Не хацеў ён трапіць жывым у непрыяцельскую няволю і для славы несмяротнай бараніўся. І забіў Казіміра сам Віцень. Пасля тае вайны кожнаму вою Вялікага княства Літоўскага паводле роўнага падзелу па дзвацаць палякаў дасталася“. Так гаворыцца ў Хроніцы літоўскай і жамойдскай. Значыць, Віцень вывеў з Лэнчыцкай зямлі каля 36 тысяч насельніцтва!

Неабходна растлумачыць, што князь лэнчыцкі Казімір выступаў супраць Уладзіслава Лакетка, падтрымліваў тадышніх чэшскіх і нямецкіх захопнікаў Польшчы. Гэты ўдар Віценя быў своечасовай і надта ж патрэбнай дапамогай Лакетку ў яго змаганні за ўз'яднанне польскіх зямель у адной дзяржаве.

І так поруч, успамагаючы адна другую, раслі і мужнелі дзве вялікія дзяржавы: Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае.

**Мікола Гайдук**




Сэрцайка, ведаю, што ты мне нічога не паможаш, але скажы ты мне, чаму так ёсць на свеце, што калі камусьці цяжка, то ніхто не зліітуецца, не дапаможа, а яшчэ толькі дабівае чалавека.

Мне 25 гадоў. Была я вельмі прыгожай дзяўчынай, а ад хлопцаў проста адбою не было. І выйшла я замуж за вельмі прыстойнага і адукаванага хлопца. Яго бацькі нам вельмі дапамаглі. Нанялі нам кватэру, плацілі за яе, ды і так куплялі, што маглі. Праз год нарадзілася ў нас дзіця. Ды толькі бацькі тое дзіця не ўбачылі ніколі. Калі я была ўжо цяжарная, мой муж вырашыў падзарабіць за мяжою і выехаў на год часу. У пісьмах ён пісаў, што вельмі цешыцца, што ў нас ёсць дзіця і два разы прыслаў пасылкі. Пасля пісаў усё радзей і ў канцы канцоў перастаў пісаць зусім. Не пісаў ён нават сваім бацькам. Я вельмі непакоілася, што з ім здарылася, і пры першай жа магчымасці вырашыла ехаць туды, дзе быў ён, каб даведацца штосьці пра яго. Прыехала пад той жа адрас, які быў на колішніх канвертах, але, на жаль, высветлілася, што жыве ён з іншай жанчынай. Дахаты вяртацца не збіраецца, вельмі шкадуе дзіцяці, але што ж — дзіця гэта яшчэ не ўсё. Найважнейшае — каб пабудаваць сабе будучыню.

Разбітая і паўпрытомная, вярнулася я дахаты. Стала на працу, адна выхоўвала дзіцё. На жаль, замест таго, каб дапамагчы мне неяк грашыма або прынамсі выслухаць мяне, сям'я ад мяне адвярнулася. Бацькі мае лічаць, што я павінна разглядзецца навокал і знайсці сабе чалавека сур'ёзнага, багатага, з вілай і мерседэсам. Ім здаецца, што мая жыццёвая трагедыя — гэта вынік майго ранейшага жыцця, а мае знаёмыя гэта не тыя людзі, з якімі можна пражыць жыццё. На жаль, я так жыць, як яны мяне навучаюць, не ўмею. Для мяне заўсёды быў важны чалавек, а не тое, што ён мае. Бацькі насілу хацелі б мяне выдаць замуж, а я ад гэтых іх прапаноў баранюся рукамі і нагамі. Яны ж ведаюць сваё, і зацюкалі мяне ўжо дарэшты. Што рабіць?

**Аня**

Аня! Твая сітуацыя даволі складаная. Вядома, што бацькі хацелі б, каб ты вылезла з нэндзы і неяк пабудавала свой „дом“. Ім бы хацелася бачыць тваё шчасце, тваю радасць, а як жа можа цешыцца тваё дзіця, калі ў яго няма бацькі! Вядома, нельга выбіраць сабе мужа паводле таго, на якой машыне ён ездзіць. Але і з „чалавекам“ тым твой выбар быў нятрапны, калі малады муж уцёк ад цыбе за мяжою да першай-лепшай.

Пакуль што вазьмі сябе ў рукі і супакойся. Калі твой муж не збіраецца вярнуцца, трэба ўзяць з ім развод, або прынамсі падаць на аліменты. Справа гэта не будзе лёгкая, але, здаецца, з-за мяжы аліменты таксама прысылаюць. Калі будзеш мець больш грошай, то станеш крыху спакайнейшая, а што датычыцца мужа, які замяніў бы твайму дзіцяці бацьку, дык усё прыйдзе з часам.

**Сэрцайка**




### БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ ПА-МІНСКУ

На 12 бульбін трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі алею, 2 сталовыя лыжкі масла, соль. На фарш: 400 г прапушчанай праз машынку свініны, 4 зубкі часнаку, перац, соль.

Сырую бульбу сцерці на тарцы і пасаліць. Падрыхтаваную масу класці ў форме аладак на моцна разагрэтую патэльню і смажыць з абодвух бакоў. Гатовыя аладкі пералажыць змеленым свіным мясам, запраўленым соллю і перцам, а таксама дробна пасечаным часнаком, пасля чаго палажыць у брытфанну, змазаную маслам, і ўставіць на 15 мінут у духоўку.

### БУЛЬБЯНЫЯ КЛЁЦКІ З ГРЫБАМІ

На 20 бульбін трэба ўзяць тры сталовыя лыжкі масла, 1 шклянку смятаннага соусу, соль. На фарш: 40 г сушаных грыбоў, 1 цыбуліну, 2 сталовыя лыжкі масла.

Сырую бульбу сцерці, выціснуць і пасаліць. Сушаныя грыбы (намочаныя на дзень раней) зварыць і дробна пасячы. Дадаць падсмажаную цыбулю і крыху грыбнога адвару, каб фарш быў больш сочны, і перамяшаць.

З бульбяной масы зрабіць аладкі, на іх класці фарш і загортваць, каб выйшлі клёцкі. Палажыць клёцкі ў брытфану і падсмажыць. Пасля гэтага заліць смятанным соусам і тушыць мінут 20—30.

### БУЛЬБЯНЫЯ КЛЁЦКІ З МЯСНЫМ ФАРШАМ

На 12 бульбін трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 сталовую лыжку масла, паўшклянкі смятаны, соль. На фарш: 40 г свініны, 1 цыбуліну, перац, соль. Сырую бульбу выціснуць, дадаць да яе муку і соль і перамяшаць. З масы рабіць прадаўгаватыя клёцкі і начыняць іх фаршам. На фарш мяса прапускаем праз мясарубку, дадаем падсмажаную цыбулю і перац і ўсё перамешваем. Клёцкі абсмажваем на масле, пасля чаго перакладаем у прадаўгаватую формачку, заліваем іх смятанай і ўстаўляем у духоўку на 20—25 мінут.

### БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ, ТУШАНЫЯ З САЛАНІНАЙ

На 12 бульбін бяром 2,5 лыжкі мукі, 200 г саланіны, 2 цыбуліны, соль.

Сцертую сырую бульбу змяшаць з мукою і пасаліць. Пасля гэтага падсмажыць аладкі. Саланіну дробна нарэзаць і падсмажыць разам з цыбуляй.

Аладкі перакладаем саланінай з цыбуляй у каструльцы і ставім на нядоўга ў духоўку.

**Гаспадыня**

### НЕБЯСПЕЧНЫЯ ЎХАБІНЫ

Ад некалькіх месяцаў небяспечна ездзіць па дарозе Бандары—Ляўкова. Глыбокія ўхабіны ўтварыліся перад і за мостам цераз раку Нараў ды крыху далей на ўзгорку, на якім знаходзіцца база беластоцкага Раённага меліярацыйнага прадпрыемства. Тут у адным месцы сарвалі асфальт і зараз у тым месцы ўтварыўся роў на ўсю шырыню дарогі. Некалькі дзесяткаў метраў далей на асфальце разлілі бетон, ён застыў і атрымаўся горб.

Абсела асфальтаванае палатно таксама пры пераездзе моста на рачулцы Баброўка на дарозе Новае Ляўкова—Падляўкова.

Вадзіцелі аўтамашын ломяць рэсоры, асабліва, калі едуць з цяжкім грузам. Шафёры легкавых машын набіваюць сабе гузы.

Варта дадаць, што на спомненых небяспечных адрэзках дарог няма перасцерагальных дарожных знакаў!

**(яц)**




—39—

**Забіваць** чалавека — не паддавайся гнеўным парывам; быць забітым — дасі ахвяру.
**Заблудзіцца** — з цяжкасцямі даб'ешся свайго.
**Заблытаць** — невялікія непрыемнасці.
**Забойства** бачыць або самому быць забойцам — даб'ешся свайго настойлівасцю; прыглядацца — неспадзяванае шчасце.
**Забойца** — не паддацца моцнай спакусе.
**Завіваць** валасы сабе — сварка ў сям'і; другому — сямейная ўрачыстасць.
**Завушніцы** (кліпсы) знайсці — даход; насіць — разгадаеш таямніцу; купляць — лёгкадумнасць, ветранасць.
**Завяшчанне** пісаць — упарадкаванне сваіх спраў; чытаць — радасць.
**Загадка** — трапіш у застаўленую пастку; разгадаць яе — атрымаеш важнае вытлумачэнне, звестку.
**Загатаваць** (гарбату, страву) — настануць цяжкія часы.
**Загон** — далёкае падарожжа.
**Загортваць** — малыя непрыемнасці.
**Задатак** — удача ў матэрыяльных справах.
**Задніца** — абразіш кагосьці.
**Заезджы дом** — добрая звестка, падарожжа з прыгодамі.
**Зайздрасць** — сцеражыся нэндзы; другому зайздросціць — ты неасцярожны (ая).
**Закахацца** — расчараванне; бачыць закаханых — патаемная радасць, шчасце.
**Заклад** — клопаты, непрыемнасці; выйграць — неспадзяваная ўдача; прайграць — грашовая страта, няўдача.
**Зала** — апынешся ў новых суадносінах з другімі; танцаваць у ёй — вясёлае жыццё; школьная, універсітэцкая — адзначэнне.
**Залёты** — замужаства (жаніцьба), выйгрыш.

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




У гэтай групе дзеці з усёй Польшчы. Яны адпачывалі ў Белавежы. Жылі ў лясным тэхнікуме. Вельмі хвалілі добры лагер, падабалася Белавежа. Калі надвор'е было горшае, хадзілі на экскурсіі па ваколіцы.

Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Алег Буцэнь**

### ЧЫМ ЗАКОНЧЫЛАСЯ КАЗКА

Марынка з сяброўкамі гуляла ў сенцах, таму што на дворы была навальніца. А калі дождж перастаў, на падворак першай выбегла Вера і весела паклікала ўсіх:

— Глядзіце, якая лужына! Я праз яе пераскочу!

За ёю пабеглі ўсе з сенцаў і таксама пачалі скакаць. Веры добра скакаць — у яе ногі доўгія. А вось Марынцы... Колькі ні скакала, так ні разу і не пераскочыла. Ногі толькі змачыла.

А потым Веру паклікала мама, і ўсе дзяўчаткі паступова разышліся. Пайшла дадому і Марынка.

Увайшла яна ў хату і пабегла ў куток да сваёй лялькі. Накарміла яе, паклала спаць, а сама падсела, як заўсёды, бліжэй да таты і прыгатавалася слухаць казку.

— Што ж табе расказаць? — задумаўся тата.

— Казку новую. Такую, што я яшчэ не ведаю.

— Ну, добра.

Тата памаўчаў трошкі, а потым пачаў расказваць:

— Жыла на свеце маленькая дзяўчынка. Звалі яе, здаецца, Галінка, а можа і Марынка, — не памятаю. І вось пайшла неяк яна гуляць. Гуляла, гуляла ў двары, пакуль дождж не пайшоў. І вялізныя такія лужыны паналіваў. Спачатку дзяўчынка глядзела, як у лужынах ад дажджу пухіры паяўляюцца і лопаюцца, а потым і сама давай па лужынах пад дажджом бегаць. Не заўважыла, як прамокла да нітачкі. Прыбегла дадому — і адразу да сваіх лялек. А калі глянула на падлогу, там — на паркеце сляды. Быццам нехта мокрымі нагамі натаптаў.

Замоўк тата, сядзіць, задумаўся.

— А далей што было? — нецярпліўіцца Марынка.

— Забыўся я, дачушка, што потым было. — І зноў маўчыць.

Паглядзела Марынка на падлогу, а там і сапраўды сляды ад яе ног. Сорамна ёй зрабілася. Устала яна, узяла анучку і пачала выціраць сляды. А тата ўсё маўчыць, толькі на Марынку паглядае. Калі Марынка выцерла апошняе пятно, ён і кажа:

— Успомніў я, дачушка, чым закончылася казка!

Але Марынка ўжо і сама ведала, таму што прыдумала татавай казцы добры канец.

### ЧАМУ ЖЭНЯ НЕ ЎМЕЛА ШЫЦЬ?

Адарвалася ў Жэні стужачка на сумачцы. Прыбегла Жэня дадому, убачыла маму і да яе:

— Мамачка, прышый, бо не буду мець куды хустачку пакласці.

Паглядзела мама на сумачку, потым на Жэню:

— Сама прышый.

— Дык я ж не ўмею!

— А ты паспрабуй!

Дала мама Жэні іголку, нітку, ножніцы. Жэня ўцягнула нітку ў іголку, завязала вузельчык — гэта яна і раней умела. Потым мама ўзяла сумачку, прыклала да яе стужачку, а Жэня пачала прышываць. Працягнула нітку раз — спрабавала, ці моцна. Працягнула другі раз, трэці... А калі прышыла стужачку моцна-моцна, зрабіла пецельку, зацягнула яе і адрэзала нітку.

— Ну вось і ўсё, — сказала мама. — А ты казала, што не ўмееш.

— А я ніколі не шыла, — адказала Жэня.

— Вось таму і не ўмела. А, як бачыш, гэта зусім проста.

Смешна зрабілася Жэні. Чаму ёй здавалася, што яна не ўмее шыць? Мабыць, даўно ўжо ўмела, толькі не бралася за іголку.

**Пятрусь Граніт**

### ВЕРАСОК

— Верас, верас, верасок,
Што ты ростам невысок,
І чаму ты, сіні,
Сцелешся ў нізіне,
І чаму наўкола
Над табою пчолы?

— Каб прыкрыць сухі пясок,
Забіраюся ў лясок;
А каб дол быў сіні,
Я расту ў нізіне.
Пахну густа мёдам,
Пчолкі — карагодам'..




**Віктар Швед**

### КАМБАЙНЫ

**Выйшлі на загоны**
**Камбайны-бізоны.**
**Хутка і прыгожа**
**Жнуць, малоцяць збожжа.**
**А ззаду, вядома,**
**Няма нат саломы.**
**Толькі вецер свішча**
**Па чыстым іржышчы.**
**Будзем праз хвілінку**
**Святкаваць дажынкі.**

### ЦЯГНІК ДАВОЗІЦЬ ДА КВАТЭРЫ

**Бабулю дапікае Веся:**
**— Малюсенькая твая хата.**
**Я на пятнаццатым паверсе**
**Жыву з матуляю і татам.**

**— Вось мука, хай жа Бог**
**бароніць,**
**Туды ўзбірацца, дарагая.**
**— Ездзім, бабуля, мы ў вагоне,**
**Які ўсе ліфтам называюць.**

**— Дык тэхніка цяпер такая,**
**Што цяжка нават і паверыць.**
**Цягнік, як чую, даязджае**
**І на паверхі да кватэры.**

### БАБУЛЯ ЖОНКА ДЗЯДУЛІ

**Пытаецца матулі**
**Цікаўная Алёнка:**
**— Ці нашая бабуля**
**Майго дзядулі жонка?**

**— Так, так, мая дачуся, —**
**Матуля ёй талкуе.**
**— Хто ж браць яго прымусіў**
**Старэнькую такую?**

**— Алёнка-малалетка, —**
**Азвалася зноў мама, —**
**Былі ж бабуля з дзедкам**
**Маленькімі таксама.**

### ГАНУЛЯ ВЫРУЧЫЦЬ МАТУЛЮ

**— Як жа цябе, матуля,**
**я шкадую!**
**На галаве тваёй усе тут**
**справы**
**Так цяжка ты працуеш**
**і працуеш,**
**Калі ў мяне забавы**
**ды забавы.**
**Як толькі, мама, вырасту**
**з гадамі**
**Дык за цябе ўсе выканаю**
**працы.**
**А ты тады, так змучаная,**
**мама,**
**Як я ў пясочку будзеш**
**забаўляцца.**

### БАБУЛЯ і ГАНУЛЯ

**— Не будзеш есці, дарагая,**
**Дык прадамо цябе на рынку.**
**За грошыкі, што атрымаем,**
**Купім слухмяную дзяўчынку.**

**Глытаючы скарынку хлеба**
**Са злосцю буркнула Гануля:**
**— А колькі грошыкаў нам трэба**
**Каб новую купіць бабулю?**

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 27 верасня а 18-й гадзіне.

### КАСЯ
**(З рэпертуару „Сяброў“)**

**Як лілея на Дунаю,**
**Як пралеска ў белым гаю**
**Цвіце Кася на ўсю вёску,**
**Зоркай яснай, зоркай рослай.**

**Стан танюткі, як былінка,**
**Ну, і Кася, ну, й дзяўчынка,**
**Як царэўна, як багіня,**
**Як нарцыса, як вяргіня.**

**Вочы-неба, броў чарненька,**
**Ах мая жа ж ты міленька.**
**Гараць шчокі, з губ маліны,**
**Не спаткаў такой дзяўчыны.**

## А ЦЕРПІЦЬ СПРАВА

Калісьці ў адной канторы
Ніхто не ведаў ні бяды, ні гора.
І кожны кожнаму быў ледзь не брат,
І справы там ішлі на лад.
Начальнік з намам — не разліць вадой.
За інтарэсы спраў былі гарой,
Ды ўстанавоў спраўна кіравалі
І асабіста шчыра сябравалі.
Але па волі ананіма
Нібыта чорны кот прабег між імі.
І праўда, і няпраўда кожнага заела,
Таму і злосць, і крыўда закіпела.
У калектыве плёткі, звадкі,
Нідзе ні ў чым няма парадку.
Змагаюцца адзін з адным да поту.
І толькі ўбаку адно — работа.

**Мікалай Місюк**







— Давай вырашаць творчыя спрэчкі мірным шляхам.

### КАПЯЛЮШ І ГАЛЬШТУК

— Я магу каму захачу на шыю павесіцца, — выхваляўся Гальштук.

— А я — на галаву сесці, — не здаваўся Капялюш.

### МІКОЛКА

— Ува што вы гулялі на двары, Міколка, ты такі брудны!

— Не памятаю дакладна, мамачка, але я быў мячом.

### У ТРАМВАІ

— Пане, калі вы ўжо чытаеце маю газету, дык прынамсі гаварыце, калі я магу перагортваць старонкі...

### СХІЛЬНАСЦЬ

— Я таўсцею нават ад духоўнай стравы.

### ВЫШЭЙШЫЯ СФЕРЫ

Лекару, які нядаўна ажаніўся, пазванілі калегі і запрасілі на партыю ў брыдж.

— Тэрміновы выклік, — вытлумачыў лекар, павесіўшы трубку.

— Нешта вельмі сур'ёзнае? — спытала занепакоена маладая жонка, убачыўшы, што муж спешна апранаецца.

— Так, надзвычай! Тры лекары ўжо там!

### ДОБРАЯ ПАМЯЦЬ

Слухаецца справа аб разводзе. Жонка абвінавачвае свайго мужа: „Ён не муж і не бацька. Адзінае, што яго цікавіць — гэта шахматы. Ён нават не памятае, калі мы пажаніліся“.

— Няпраўда, — запярэчыў муж. — Выдатна памятаю. Гэта здарылася праз два дні пасля таго, як Карпаў стаў чэмпіёнам свету.



**Мара падхаліма: стоячы на каленях, хадзіць яшчэ на дыбачках.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Дома ў Дзяніса Лукіча панадворак заасфальтаваны, у варотах жалезабетонныя слупы, падвал выцэментаваны, фундамент — з каменя.

Завітаўшы нейк да яго, стары сябар усклікнуў:

— А ты і дагэтуль у дарожна-будаўнічай брыгадзе арудуеш?

— Адкуль ты ведаеш?

— Па доме бачу.

— А ты, відаць, у ахове прыроды?

— Як ты здагадаўся?

— Па бабровай шапцы, што на тваёй галаве!

✲

Аднойчы на нарадзе пайшчыкаў старшыня праўлення запытаўся ў аднаго з удзельнікаў:

— Як ваш прадавец?

— Нічога сабе... — адказаў той.

— А ваш? — звярнуўся ён да другога.

— Так сабе...

— А ваш? — спытаў трэцяга.

— Усё сабе...

### ХТО БОЛЬШ БРАХЛІВЫ

Стары Лаўрэн даўно заўважыў, што яго сват Піліп не цікавіўся хрыпатымі, як з перапою, замежнымі радыёгаласамі. Аднойчы запытаў: чаму сусед такі раўнадушны да інфармацыі з „вольнага свету“ і не ходзіць да яго паслухаць радыё.

— Я да суседа люблю хадзіць, — быў адказ. — Ён брэша пра свае паляўнічыя прыгоды больш цікава.

**Савелій Паўлаў**

З „Весніка Задрыпоніі“

### УВАГА, ЧАКАЮЧЫЯ!

Абяцаны на кастрычнік г.г. дэмаграфічны выбух пераносіцца на IV квартал наступнага года ў сувязі з неўраджаем капусты.

### БАНТОН

Калі вы ў тэатры ці ў кіно не шамаціце ў час спектакля ці сеанса паперкамі, разгортваючы цукеркі, — гэта можа раздражняць седзячых побач гледачоў, якія з апетытам чаўкаюць марожаным.



— Вы павінны быць падрыхтаваны да нервовага ўзрушэння, мадам: ваш сыночак заўтра можа ўстаць з ложка!...

## Курʼёзы

### „ВІЗІТНАЯ КАРТАЧКА“

Выдатны рускі хімік Бутлераў вылучаўся фенаменальнай фізічнай сілай.

Нейк яшчэ юнаком прыйшоў ён да сябра і не застаў яго дома. Агледзеўшы пакой, убачыў качаргу, сагнуў яе ў выглядзе літары „Б“ і пайшоў. Такая „візітная картачка“ не выклікала ніякага сумнення ў тым, хто яе мог пакінуць.

### ПАРАДА

Пачынаючы пісьменнік прынёс Томасу Ману цэлыя стосікі рукапісаў і папрасіў выказаць аб іх думку.

— Вы павінны як мага больш чытаць, чытаць, — сказаў Ман, прагледзеўшы рукапісы.

— Ці ж гэта абавязкова? — здзівіўся малады чалавек.

— Вядома! Чым больш вы будзеце чытаць, тым менш астанецца ў вас часу, каб пісаць.

### АБ'ЯВА

„Грамадзяне сабакатрымальнікі! Напамінаем, што вы павінны выгульвацца на двары толькі з сабакамі“.



**Калі дзеці перастаюць задаваць пытанні, маса пытанняў нараджаецца ў іх бацькоў...**